Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№16 (1033) 24 студзеня 1995 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541972 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.

ФАКС
* ФАКТЫ * АРГУМЕНТЫ * КОММЕНТАРИИ * СОБЫТИЯ *

## Вкратце

***В чеченской столице Грозном в минувшие сутки никаких позиционных изменений не произошло, линия противостояния подразделений российской армии и чеченских формирований по-прежнему проходит по протекающей в черте города реке Сунжа.***

Районы города, где находятся чеченские формирования, постоянно обстреливаются из различных видов оружия. Центр Грозного не контролируется ни одной из сторон.

❑

***Выведенный за штат заместитель министра обороны Георгий Кондратьев заявил, что взятие российскими войсками президентского дворца в Грозном - "это не победа".***

Генерал Кондратьев предсказывает продолжение войны в Чечне, поскольку теперь с российской армией "воюет чеченский народ, воюет за свою землю".

❑

***Премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь прибыл в понедельник в Латвию с однодневным рабочим визитом.***

М.Чигирь проведет переговоры с латвийским коллегой Марисом Гайлисом по вопросам расширения экономического сотрудничества. Стороны намерены обсудить также проблемы пересечения границ в ходе поездок жителей приграничных районов.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 23 января упал на 22 пункта по сравнению с торгами в пятницу и составил 3969 рублей.***

## Визит делегации Министерства обороны США

***23—24 января в Минске находится делегация Министерства обороны США с целью обсуждения хода осуществления программы Нанна-Лугара по оказанию Беларуси помощи в демонтаже ядерных вооружений, конверсии предприятий оборонной промышленности и ликвидации экологических последствий деятельности военных объектов.***

Делегация во главе с д-ром Глорией Даффи, заместителем помощника министра обороны США, специальным координатором программы совместного снижения угрозы (ССУ), проведет встречи с представителями министерств иностранных дел, обороны, внешних экономических связей и охраны окружающей среды Республики Беларусь, на которых будет рассмотрен ход реализации программы ССУ. Помимо этих встреч делегация проведет консультации с официальными лицами из Верховного Совета и Академии наук Республики Беларусь.

Предметом обсуждения станут программы переподготовки бывших военнослужащих и членов их семей, создание совместных предприятий, строительство жилья для военнослужащих, проекты восстановления окружающей среды и вопросы, связанные с финансированием этих и смежных проектов.

## Поговорили — и хватит

***"Время разговоров, длившееся пять лет, закончилось, начинается реальная работа, и вести ее смогут только те политические силы, которые имеют развитые структуры, опыт и авторитет в обществе".***

Так заявил лидер Белорусского народного фронта Зенон Позняк на пресс-конференции, организованной руководителями партий, вошедших в предвыборный блок демократических сил.

По словам З.Позняка, БНФ реально оценивает свои силы в преддверии новых парламентских выборов в республике и намерен провести их организованно. Как считает Зенон Позняк, при проведении выборов существует реальная угроза их фальсификации властями Беларуси. В связи с этим блок демократических сил намерен организовать стопроцентный контроль за проведением выборов.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ.**

## Пинские депутаты дают совет Госдуме России

***В ответ на предложение об объединении России и Беларуси, которое исходит в основном от жириновцев и коммунистов, группа депутатов Пинского горсовета приняла обращение к Госдуме России.***

Оно заканчивается словами: "Мы советуем Вам направить свои усилия на как можно скорейшее прекращение агрессии в Чечне, как это делает депутат вашей Думы Сергей Ковалев, а не заниматься созданием новой империи. И желаем России стать демократическим государством, у которого с Беларусью будут равноправные, взаимовыгодные отношения".

**Алексей АВСЕЕНКО.**

## Дело Статкевича — круг второй

***На днях Военная коллегия Верховного суда рассмотрела протест заместителя председателя Верховного суда Евгения Царенко по делу председателя БОВ Николая Статкевича, уволенного из армии с формулировкой "за дискредитацию высокого звания офицера" приказом бывшего министра обороны П.Козловского.***

В протесте сказано, что выводы военного суда о том, что Н.Статкевич "занимался политической деятельностью, убедительными доказательствами не подтверждены. Какие конкретно Н.Статкевич совершил проступки, дискредитирующие звание офицера, суд в решении не привел." Военная коллегия, несмотря на протесты представителей Министерства обороны, отменила решение военного суда, который посчитал увольнение председателя БОВ законным, и вернула иск Н.Статкевича к министерству на повторное рассмотрение в Минский гарнизонный военный суд.

**Пресс-служба БОВ.**

## Разрыв увеличивается

***В немецких газетах обнародован доклад Института экономических исследований (г.Галле, ФРГ), посвященный проблемам перехода к рыночной экономике постсоциалистических государств Восточной Европы и СНГ.***

По мнению экспертов, в большинстве стран Восточной Европы, а также в Эстонии в 1994 году наблюдался устойчивый рост производства. В то же время в России, на Украине и Беларуси происходил его спад. Таким образом, в области экономического развития разрыв между этими группами стран постоянно увеличивается.

## Спасая язык, спасти народ

***Представители Координационного комитета по защите белорусского языка провели пикетирование Представительства ООН в Беларуси.***

Пикетчики попытались обратить внимание международной организации и зарубежных средств массовой информации к проблеме упадка белорусского языка и необходимости его возрождения для сохранения самобытности белорусского народа и его культуры.

**Александр КАЗАК.**



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.

Афіцыйна

## Андрэй Козыраў завітаў у Вярхоўны Савет

Учора адбылася сустрэча Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба з міністрам замежных спраў Расіі Андрэем Козыравым. Абмяркоўваліся пытанні ўзаемаадносін суседніх дзяржаў.

На сустрэчу былі запрошаны члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, дэпутаты, журналісты. Але апошніх дапусцілі толькі для афіцыйных прывітальных прамоў. Дзелавыя перамовы ішлі ў вузкім коле.

Размова на вышэйшым узроўні працягвалася каля сарака хвілін.

❑

Учора Андрэй Козыраў сустрэўся таксама са сваім беларускім калегам Уладзімірам Сянько, выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем, прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі Мінска, усклаў вянок да манумента на плошчы Перамогі.

**Адам ВЕРАБЕЙЧЫК,**
**фота Сяргея ГРЫЦА.**

РЭХА ЧЭЧЭНСКАЙ ВАЙНЫ

***Сяргей КАВАЛЁЎ:***

## "Я малю, каб кроў перастала ліцца"

***"Плач, Расія, па сваіх сынах, забітых злачынцамі-генераламі", "Правы чалавека ў Расіі — пад ботам ВПК—ФСК—МУС" — гэтыя і падобныя ім плакаты як усплёскі народнага гневу прынеслі на Лубянскую плошчу тысячы масквічоў, што сабраліся на паніхіду і мітынг памяці ўсіх, хто загінуў у Чэчні.***

Сярод тых, хто выступіў з асуджэннем урадавага курсу на эскалацыю ваенных дзеянняў у Чэчэнскай Рэспубліцы, быў і ўпаўнаважаны па правах чалавека Расійскай Федэрацыі С.А.Кавалёў. Яго кароткі зварот да прысутных, які запісаны мною на дыктафон, дапаможа чытачам "Народнай газеты" глыбей разабрацца ў тым, што адбываецца сёння ў расійскім грамадстве ў сувязі з чэчэнскімі падзеямі. Вось ён: "Руіны Грознага завалены трупамі. Гэта трупы расійскіх салдат. Іх грызуць адзічэлыя сабакі. Гэтыя абкусаныя трупы былі нечымі сынамі.

Я атрымаў ад прэм'ера В.Чарнамырдзіна даручэнне: дамовіцца аб заключэнні 48-гадзіннага мірнага перапынку. Ён неабходны, каб сабраць трупы і эвакуіраваць цяжкапараненых. Даручэнне было ўзгоднена з Прэзідэнтам Б.Ельцыным.

Прыехаўшы на месца, я на працягу некалькіх гадзін спрабаваў звязацца з генераламі ў Маздоку — у штабе групоўкі расійскіх войск у Чэчні. Аказалася, што генералы заняты і не змогуць падысці да тэлефона...

А праз гадзіны дзве ад імя "ўрада Расійскай Федэрацыі" была апублікавана заява, накіраваная на зрыў спынення агню.

Генералы не лгалі: яны сапраўды заняты. Яны заняты тым, каб не дапусціць ніякіх перамоў. Яны не хочуць міру. Яны не хочуць, каб нехта даведаўся аб колькасці трупаў расійскіх салдат. Яны вельмі не хочуць, каб палонныя засталіся ў жывых...

Я не патрабую жорсткага пакарання вінаватых, я малю, каб кроў перастала ліцца. Гэта так проста. На гэта не трэба танкаў, не трэба грошай, не трэба нічога, апрача добрай волі..."

Дэпутат Дзярждумы С.Кавалёў вярнуўся з Чэчні некалькі дзён назад. Ён усё бачыў сваімі вачыма.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

## Чеченская трагедия стучится в белорусские двери

***В конце минувшей недели родные и близкие проводили в последний путь старшего лейтенанта медицинской службы российской армии, гомельчанина Виталия Шаповалова — племянника председателя горисполкома.***

Военврач Шаповалов был убит снайпером в Чечне во время вывоза раненых солдат штурмовой роты. Траурная церемония проходила в СШ №8, где работает учительницей мать убитого.

После восьмилетнего обучения в Гомеле и Минского суворовского училища В.Шаповалов окончил Военно-медицинскую академию в Санкт-Петербурге. Служил по распределению военврачом в Псковской воздушно-десантной дивизии. Был женат, дочери — четыре годика.

В начале декабря минувшего года военврач Шаповалов был направлен в составе частей ВДД в Чечню, где и погиб, не дожив два месяца до своего 26-летия.

Так пусть его трагическая судьба послужит горьким уроком разного рода политикам, что стремятся обручить Беларусь военным браком с Россией!

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Дзмітрый Булахаў "катапультаваў" з прэзідэнцкай каманды. Бачна, што гэтым вынікам задаволены абодва бакі

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Шчыра кажучы, гэтага кроку ад старшыні парламенцкай Камісіі па заканадаўству чакалі даўно. Стыль не па гадах сталага палітыка падказваў, што роллю "прэзідэнцкага мікрафона" ў парламенце ён не задаволіцца. У зорны час перамогі Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах яго паплечніка Дзмітрыя Булахава прадвызначалі ў міністры, саветнікі, старшыні Канстытуцыйнага суда. Але карты па розных прычынах як трэба не складваліся. Кажуць, у апошні час Булахаў разлічваў на пасаду дзяржсакратара Савета бяспекі... Зараз бачна, што сесці і ў гэтае крэсла (якога, дарэчы, яшчэ не існуе) шансаў не было. Памеркаваўшы некалькі тыдняў, Дзмітрый Булахаў вырашыў звязаць свой далейшы палітычны лёс з партыяй Усебеларускага адзінства і згоды, больш вядомай па рускамоўнай абрэвіятуры ВЕС. Аб гэтым ён і заявіў на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ўчора ў Вярхоўным Савеце. Журналістам стала вядома, што Булахаў паспеў ужо зрабіць у партыі выдатную кар'еру: ён абраны часовым старшынёй яе вышэйшага органа — думы — і свае абавязкі будзе выконваць да чарговага з'езда. Менавіта з гэтай партыяй ён будзе звязваць і спробы зноў стаць дэпутатам парламента.

У дадатак да прагучаўшай інфармацыі Булахаў фактычна пацвердзіў, што больш ён не выконвае абавязкі прадстаўніка Прэзідэнта ў парламенце. Раней, як вынікае са слоў часовага старшыні ВЕСа, ён браўся за гэтую місію толькі калі яго погляды супадалі з поглядамі Прэзідэнта.

Такім чынам, падвядзём рысу. Булахаў яўна не ўпісаўся ў прэзідэнцкую каманду, нягледзячы на тое, што неаднаразова рабіў для гэтага спробы. Прычына разыходжання, відаць, не толькі ў падкопах іншых больш удачлівых паплечнікаў Прэзідэнта (а яны былі да Дзмітрыя Пятровіча "ўважлівымі" адразу), але і ў асобных рысах Булахава. У схільнасці да палітычнай самастойнасці, больш шырокім і прынцыповым поглядзе на дэмакратычныя каштоўнасці, адсутнасці некаторых чыноўніцкіх інстынктаў. Не варта лічыць, што сыход Булахава — гэта наступнае звяно ў ланцужку, які пачаў сваёй адстаўкай Віктар Ганчар: прэзідэнцкая каманда не развальваецца, а, наадварот, гуртуецца, пазбаўляючыся ад тых, хто ў яе не ўпісаўся. Так што не трэба гадаць, хто будзе наступным. Затое відавочна, што гэты крок старшыні парламенцкай камісіі адлюстроўвае іншую вельмі цікавую тэндэнцыю: стварэнне партый пад пэўных лідэраў спынілася, зараз створаныя ўжо партыі шукаюць гучныя імёны, каб было лягчэй канкурыраваць з іншымі партыямі на наступных парламенцкіх выбарах. Магчыма, выбар Булахавым партыі ВЕС адпавядае яго палітычным поглядам. Сённяшнім палітычным поглядам. Але што будзе далей, не ведаюць, пэўна, ні сам Булахаў, ні партыя, якой ён надаў "вес" сваім старшынствам. Толькі выбары пакажуць, ці будзе гэты альянс доўгатэрміновым...

Беларусь — Германія

## Вынікі супрацоўніцтва праявяцца хутка

***Вечарам 22 студзеня завяршыўся першы візіт у Беларусь прэм'ер-міністра нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Йаханеса Раў. У нядзелю ў другой палове дня яго прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.***

— Наша сустрэча працягвалася амаль паўтары гадзіны, — сказаў журналістам пасля яе завяршэння высокі госць. — За гэты час мы абмеркавалі шырокае кола пытанняў. Галоўнае з іх датычыла інвестыцый у эканоміку Беларусі.

Йаханес Раў адзначыў, што больш інтэнсіўнаму прыцягненню капіталу для развіцця рэформ у рэспубліцы пакуль што перашкаджаюць заканадаўчыя няўвязкі, але выказаў упэўненасць, што хутка такія праблемы вырашацца.

— Мы таксама абмяняліся думкамі па цэламу шэрагу палітычных праблем, якія адбываюцца ў свеце, і хоць нашы погляды не заўсёды супадалі, я пераканаўся ў адданасці кіраўніцтва Беларусі дэмакратычнаму шляху, — сказаў далей прэм'ер-міністр.

Затым адбылася гутарка дэлегацыі ФРГ з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгірам і некаторымі членамі ўрада. Тут размова ішла аб супрацоўніцтве ў галіне эканомікі, аховы здароўя і адукацыі. Йаханес Раў адзначыў, што ўжо два сумесныя праекты паспяхова ажыццёўлены. Гэта будаўніцтва і функцыянаванне Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра, які адыгрывае ўсё больш прыметную ролю ў грамадскім жыцці беларускай сталіцы. І рэканструкцыя дзіцячага хірургічнага цэнтра першай гарадской клінічнай бальніцы Мінска.

Менавіта адкрыццю пры дзіцячым хірургічным цэнтры кардыя-дыягнастычнага комплексу быў прымеркаваны візіт прэм'ер-міністра зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў Беларусь.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**Белінфарм.**

АКТУАЛЬНЫЯ ДЫЯЛОГІ

## "Нас не будзе любіць ніякая ўлада..."

**З прэзідэнтам выканаўчага бюро Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандрам ЛЫСЕНКАМ гутарыць аглядальнік "Народнай газеты" Іван ГЕРАСЮК**

**— На сустрэчы Прэзідэнта нашай дзяржавы з прафсаюзным актывам рэспублікі выступала шмат палымяных аратараў, але голасу вашых прадстаўнікоў чамусьці чуваць не было...**

— Таму што на гэту сустрэчу Прэзідэнт нас не запрасіў.

Я думаю, недалёка той час, калі ўлады самі прыйдуць да нас. Рана ці позна яны зразумеюць, што грамадзян адной дзяржавы нельга дзяліць на сваіх і чужых, што трэба выслухаць кожны пункт гледжання.

**— Тым не менш Прэзідэнт даволі выразна выказаўся, што знойдзе спосаб утаймаваць тыя прафсаюзы, якія будуць займаць дэструктыўную пазіцыю і весці палітычную барацьбу.**

— Да пагроз мы прывыклі з першага дня свайго існавання і звыкліся з імі. Нас не любіла папярэдняя ўлада, не асабліва шануе цяперашняя, ды і ўвогуле ніякая ўлада не будзе нас любіць, бо мы адстойваем не іх інтарэсы, а інтарэсы тых, кім яна кіруе.

**— ФПБ згадзілася раздзяляць адказнасць за рэалізацыю праграмы першачарговых мер па выйсцю з крызісу...**

— Ніколькі не сумняваюся, што гэта простае абавязацельства не змагацца за павышэнне заработнай платы, стрымліваць людзей ад выступленняў супраць улады, чым "школа камунізму" займалася пры Сакалове, Малафееве, Дзямянцею... Мы не можам раздзяляць адказнасць за выкананне гэтай праграмы хоць бы таму, што нам нават не прапанавалі ўдзельнічаць у яе распрацоўцы.

**— Можа, таму, што вашы прафсаюзы нешматлікія...**

— Хутчэй таму, што непаслухмяныя. Так, нас сапраўды яшчэ не мільёны, як у ФПБ. Але адназначна магу сказаць, што ў старых прафсаюзных структурах большасць людзей лічацца толькі фармальна.

Людзі нават не ведаюць, якія ўзносы яны плацяць (аўтаматычна вылічвае бухгалтэрыя), даўно пазакідалі свае прафсаюзныя білеты і не наклейваюць у іх ніякія маркі. Калі б узносы ў арганізацыях ФПБ пачалі збіраць прафгрупоргі, вы б пабачылі, колькі членаў там бы засталося. Многія не пакідаюць тыя прафсаюзы, баючыся звальнення з работы. Аднак пройдзе апатыя і пройдзе страх. Рады дэмакратычных прафсаюзаў будуць расці. Да нас далучыўся незалежны прафсаюз работнікаў адукацыі, фарміруецца магутная арганізацыя транспартнікаў, першыя ячэйкі з'явіліся і ў вёсцы.

**— Дарэчы, уся прафсаюзная ўласнасць набывалася за грошы радавых членаў прафсаюза, у тым ліку тых, хто перайшоў у вашы рады. Чаму вы не запатрабуеце сваю долю?**

— Барацьба за ўласнасць расцягнецца на доўгія гады і таму сёння не мае сэнсу. У вашай жа газеце друкаваўся артыкул "Паўстанне "Спартака" аб тым, як спартыўнае таварыства паспрабавала адабраць у ФПБ сваё законнае і чым гэта скончылася. Калі мы заявілі пра свае правы на долю фонду сацыяльнай абароны для аздараўлення, які фарміруецца і з падаткаў членаў нашага прафсаюза, нам прапанавалі далучыцца да ФПБ на правах аднаго з прафсаюзаў гэтай федэрацыі. Але ж мы маем роўны статус з ФПБ! Цяперашні Кабінет Міністраў дзейнічае метадамі ўрада Кебіча. Тады сродкі фонду сацыяльнага страхавання, выдзеленыя на кампенсацыю кошту навагодніх падарункаў, да нашых дзяцей не дайшлі. Падобна на тое, што сітуацыя паўторыцца. Я разумею ўрад: яму выгадна, каб усё было ў адных паслухмяных руках. Аўтарытарызм не цярпіць шматгалосся. Але мы адназначна заявілі, што заўсёды будзем адстойваць прынцыпы дэмакратыі і ад гэтага не адступімся.

**— Ці мяркуеце вы ўдзельнічаць у гэтых выбарах?**

— Безумоўна. Як і ФПБ, будзем вылучаць сваіх кандыдатаў, падтрымліваць тых, хто адстойвае дэмакратыю, правы і свабоды чалавека.

**— І ўсё ж, чаму так павольна растуць вашы рады?**

— На жаль, мы не маем доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Нашы газеты "Салідарнасць" і "Свабодныя прафсаюзы" выходзяць невялікім тыражом. Ведаюць пра нас вельмі мала.

**— Так, ведаюць пра вас мала, але чулі многія і хацелі б наладзіць з вамі сувязь. Толькі як?**

— Наша штаб-кватэра знаходзіцца ў будынку на плошчы Свабоды, 23 у Мінску. Уваход з адваротнага боку, не з параднага пад'езда. Размяшчаемся ў невялічкіх пакойчыках на першым паверсе. Тэлефон 27-04-54.

**— Ці запрашаеце вы да сябе калег з іншых краін? Ці дзеліцеся вопытам?**

— Мы падтрымліваем пастаянную сувязь з "Салідарнасцю" ў Польшчы, з "Саюзам рабочых Літвы", Незалежным прафсаюзам гарнякоў у Расіі, а таксама з арганізацыямі ў Бельгіі, Германіі, Францыі, ЗША, іншых краінах.

Яны назапасілі багаты вопыт супрацьстаяння працы і капіталу. Нам гэты шлях трэба прайсці. І мы яго пройдзем, адстойваючы інтарэсы рабочага чалавека, не зважаючы на ўладу, якая не любіла, не любіць і не будзе любіць тых, хто адкрыта выступае супраць сытых "вярхоў" пры жабрацтве народа.

Народная газета

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## “Той, хто змагаецца супраць беларускай мовы, штурхае краіну да грамадзянскай вайны”

Каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы, у які ўваходзяць дваццаць пяць арганізацый, партый, груповак, фондаў, зрабіў чарговую заяву. У ёй гаворыцца:

“Пытанне мовы — пытанне жыцця і смерці нацыі. Выступленне ў любой форме супраць беларускай мовы — гэта агрэсія супраць беларускай нацыі. Даводзім да ведама ўсіх, што ў Беларусі ёсць людзі, якія абароняць беларускую мову і нацыю ўсімі магчымымі сродкамі.

Той, хто змагаецца супраць беларускай мовы, штурхае краіну да грамадзянскай вайны. Гэты чалавек — або вар'ят, або самагубца, або амаральны авантурнік.

З мэтай абароны беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь і створаны наш камітэт.

Заклікаем усе патрыятычныя сілы Беларусі далучацца да гэтага грамадскага руху, ствараць мясцовыя суполкі і рэгіянальныя камітэты дзеля такой пачэснай справы.

Каардынацыйны камітэт перасцерагае Прэзідэнта і дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, дзяржаўных чыноўнікаў усіх узроўняў, у тым ліку кіраўнікоў навучальных устаноў, ад спробы парушаць Канстытуцыю нашай краіны і статус дзяржаўнасці беларускай мовы.

Камітэт звяртаецца да грамадзян краіны з заклікам паведамляць пра ўсе факты такіх парушэнняў з боку дзяржаўных чыноўнікаў у пракуратуру, а копію, як і ўсю магчымую інфармацыю па гэтых пытаннях, перасылаць на адрас камітэта”.

Нагадваем кантактныя тэлефоны Каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы: 68-14-35, 32-54-46, 70-62-39. Паштовы адрас: 220005, г.Мінск, вул. Румянцава, 13.

### Уточнение

В “Народной газете” за 21—23 января в заметке “На молоко дадут лишь детям нищих. Из нищих” последнее предложение следует читать так: “Теперь у каждого родителя начисленная сумма подоходного налога, причитающаяся к удержанию, уменьшается на сумму налога, исчисленного исходя из месячной минимальной зарплаты на каждого ребенка до 18 лет и иждивенца”.

ПИКАНТНАЯ ИСТОРИЯ

# Дон Жуан в судейской мантии

**Анатолий ГОТОВЧИЦ, собственный корреспондент “Народной газеты” по Гомельской области**

Трудно сказать, знал ли доподлинно восточную жизнь представитель Полесья Альфонс Талашовский (назовем его так), но кое-какие элементы тамошнего быта ему страх как нравились. Ну, например, вот этот: когда их много, а он — один.

Внутри растет, зреет эдакое павлинье чувство: ты и важен, и нужен, и, конечно же, неотразим. Сами закрываются глаза, воображение рисует уютный дворик, голубой фонтан, топчан с ковриком под чинарою. Зульфия, Гюльчатай, Джамиля...

Испанский вариант жизни одного легендарного героя, обошедшего мировую литературу, Альфонсу Борисовичу тоже был по душе. Подобно этому герою, он не менее сладострастно мог бы воскликнуть: “Эльвира, Шарлотта! Сердце мое, я чувствую, способно любить весь день!”

— Альфонс Борисович, — прервала сладкие грезы председателя районного нарсуда вошедшая сотрудница, — тут вот исполнительные листы, нужно подписать.

— Ну да, конечно. — И председатель брал не бумаги, а подающую их руку и, поглаживая, подобно испанскому герою, расточал комплименты. — Любая красавица вольна очаровывать нас. А ты сегодня — чистый персик!

Не знал, не догадывался г-н Талашовский, кто действительно по нем сохнет, ломает руки, роняя горючие слезы на ланиты. А потому он в мгновение ока оказывался у двери и привычным жестом запирал ее на ключ.

— Не по сердцу мне, Альфонс Борисович, ваш образ действий, — едва ли не классически произносила ошарашенная сотрудница.

— Будь умницей, не упрямься, — говаривал председатель, — жить будешь, как у Христа за пазухой. А может, и лучше. Я же твой начальник!

И начиналась настоящая дуэль: кто — кого? Донжуанствующий председатель или зависящая от него по работе представительница прекрасного пола? Начальственное вероломство или женское достоинство?

Не всем удавалось устоять в подобных (за дословную точность диалогов не ручаюсь, но за смысл — да) весьма пикантных ситуациях. Одна из председательских жертв написала в объяснительной в управление юстиции Гомельского облисполкома: “Я работала с ним постоянно униженной и оскорбленной”. Председатель же, презрев ту, что заслуживала большего, увивался вокруг очередных юбок. Благо, в учреждении прекрасных дам едва ли не десяток.

— Что-то вы, Джамиля, сегодня опоздали. Даже не знаю, как мы поладим.

— Зульфия, задержись к концу дня. Дело есть, и комната отдыха свободна.

— А ты знаешь, Шарлотта, что о тебе Матюрина рассказывала?

Не называю настоящих имен секретарей, судебных исполнительниц нарсуда — такой был уговор. А вот выдержки из письменных объяснений приведу слово в слово — как бы это ни было горько настоящей поклоннице судьи.

“На протяжении длительного времени председатель приставал ко мне, домогался физической близости, используя свое служебное положение”. “Шантажировал меня, принуждал вступать с ним в половую связь”. “Закрывал двери кабинета, пытался обнимать, в конце концов доводил меня до истерики, слез...”

Истерика на какое-то время урезонивала любвеобильного председателя, и он отступал. Но неудачи в собственном коллективе Альфонс Борисович стремился компенсировать на стороне, опять-таки не замечая ту единственную, у которой сердце рвалось на части. Объектами амурных страстей председателя становились женщины, что обращались в суд по различным гражданским делам.

— Загружен. Приходите после работы, — мило советовал он.

“Я, конечно, пришла, — написала в объяснительной гражданка Р. — У меня в то время были спорные вопросы с мужем насчет раздела имущества. Альфонс Борисович сначала предложил выпить, а потом сказал, что я его интересую как женщина, и если я буду с ним, то все будет решено в мою пользу”.

А вот как собирался разрешить Талашовский иск гражданки Ч. о выселении из квартиры: “Предложил съездить к нему на дачу для оформления бумаг и подробной консультации”.

Впрочем, комната отдыха в здании суда и собственная дача были не единственными местами амурных утех председателя. Иным он предлагал природу — прекрасные полесские леса, вызывая тем самым печальный вздох особы своей первейшей страсти.

“Наживка” тоже временами менялась. “Клевали” на заманчивое предложение предоставить работу в суде.

Пообщавшись на эту тему где-нибудь в медностволом лесу с приглянувшейся молодицей, председатель Талашовский стремился расчистить место для новой пассии. Больше всего доставалось несговорчивым сотрудницам суда, отвергшим донжуанские притязания председателя. “Цеплялся ко всему, по любому поводу”, “Сталкивал работников друг с другом”, — так характеризовали женщины обстановку в суде в последние месяцы.

Однако утверждаемый Талашовским известный принцип “разделяй и властвуй” неожиданно дал трещину.

“Он вернется в мои объятия” — возрадовалась преданная поклонница судьи, завидев, что сотрудницы прозрели.

Каплей, переполнившей чашу, был, пожалуй, случай в прошлогоднем сентябре, когда своими придирками председатель довел одну из женщин до обморочного состояния. Тогда-то и всплыло все на поверхность. Объединившись, женщины восстали.

“Бабий бунт” вылился в письмо (без подписи) в Министерство юстиции и копию его в областное управление. Были в нем и такие слова: “Мелкие интриги, сплетни всегда были частью жизни наших недавних комсомольско-партийных работников, и этот вирус он (Талашовский — А.Г.) как бывший парткомсомольский работник, а не профессиональный юрист принес в суд”.

Дальше следовали некоторые детали — о запугивании сотрудниц увольнением, о знаменитой председательской “комнате отдыха”, из-за которой суд в районном городке прозвали “публичным домом”, об административных арестах рабочих, используемых впоследствии на строительстве дачи, о многом прочем.

— Когда я прочитал письмо, — рассказывает начальник управления юстиции Гомельского облисполкома Яков Аземша, — за голову взялся. Сам поехал в райцентр. У анонимного письма объявились авторы — семь женщин из суда. Такой поворот событий заставил подключить комиссию. Взяли письменные объяснения у сотрудниц, некоторых обращавшихся в суд по личным вопросам. Получалась неприглядная картина. Потому и направлено было представление в квалификационную коллегию судей Гомельской области о даче согласия на досрочный отзыв Талашовского с должности председателя нарсуда.

Трижды назначалось заседание квалификационной комиссии, но А.Талашовский не являлся. Всякий раз бюллетенил. Явно подустал.

Тем временем страсти в суде накалялись. Наводить порядки там вознамерилась законная супруга председателя. Дошло до рукоприкладства. “Просим защиты” — такими словами заканчивалась телеграмма в корпункт “Народной газеты”.

Не стала больше ждать и квалификационная коллегия судей под председательством Александра Дегтярева — начала рассматривать представление управления юстиции без главного действующего лица.

Заслушали семерых женщин. Они рассказывали, краснея. Но ни одна из них не стала отказываться от своих письменных объяснений.

Сам Альфонс Талашовский пожаловал на коллегию лишь в четвертый раз. Он не краснел. Даже тогда, когда произносил двусмысленный в его ситуации изрядно потрепанный лозунг: “Кто не работает, тот не ошибается”. И добавлял для пущей важности: “Из-за своей доброты страдаю”.

— Тогда почему вы, — спросили судьи, — уже сейчас написали заявление с просьбой освободить от должности по собственному желанию?

— Это нервная система. Не берите заявление во внимание... Они сговорились, хотят сковырнуть. Идет атака с полным (!— А.Г.) забралом.

— Ну хорошо, — как бы соглашаясь, поинтересовалась член коллегии Галина Шевченко. — Но почему такой жестокий способ избрали женщины вашего суда — опорочить себя, чтобы вас “сковырнуть”?

Вопрос был, что называется, в яблочко, и Альфонс Борисович расфилософствовался.

— Они между собой не могут разобраться, кто более порядочный. Нашли, значит, крайнего, стрелочника — председателя суда.

— Получается, — уточнил А.Дегтярев, — что они друг дружку ревновали к вам?

— Не исключено... Из мухи сделали слона.

Коллегия судей посмотрела на все иначе — и на муху, и на слона. И в конце концов дала согласие на досрочный отзыв А.Талашовского с должности председателя районного нарсуда. Как сказано в постановлении, “за совершение поступка, порочащего высокое звание народного судьи”. Посчитала: хватит ему расточать свое любвеобилие в суде. Уж очень неподходящий образ выбрал Альфонс Борисович к судейской мантии. А все потому, что столь холодно презрел любовь той, которая этого заслуживала, — Фемиды.

***P.S. Как вы догадываетесь, точное местожительство и настоящая фамилия главного “героя” не названы вовсе не из-за жалости к нему самому. Жалко униженных им женщин...***

ПАДЗЕЯ







## Калі адкрываюць новыя памежныя пераходы, то гэта патрэбна абодвум народам

У мінулую суботу ў Брэсце прайшла афіцыйная сустрэча прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра са Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Польшча Вальдэмарам Паўлякам. Праграма дня была насычанай: раніцай кіраўнікі ўрадаў разрэзалі стужку пры адкрыцці новага памежнага пераходу Дамачава на поўдзень ад Брэста, наведалі Брэсцкую крэпасць, правялі перамовы і падпісалі шэраг міжурадавых і міжведамасных пагадненняў, а таксама міжурадавую Дэкларацыю аб развіцці эканамічнага супрацоўніцтва.

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

Сегодня

## Военные городки — на службу экономики

После того, как суверенная Беларусь обрела статус безъядерного и нейтрального государства, оказались не у дел более 100 военных городков. Еще столько же разделят их судьбу в нынешнем и будущем году.

Во весь рост встала проблема: как поставить эти городки, имеющие добротную материальную базу и развитую инфраструктуру, на службу экономики Беларуси? Исподволь зародилась и созрела мысль их разумной конверсии. По просьбе белорусского правительства к разработке уникального в своем роде проекта подключились МОТ и Европейская экономическая комиссия ООН.

И вот сегодня в Мингосимуществе Республики Беларусь состоится презентация международного проекта “Конверсия, занятость, предпринимательство и энергоснабжение”.

В презентации примут участие представители правительственных и неправительственных организаций, зарубежные гости. Речь пойдет о том, как быстрее и с наименьшими затратами превратить бывшие военные базы в оазисы высокоэффективного производства и бизнеса.

**Владимир ВАСИЛЬЕВ.**

Прыватызацыя

## Як я стаў акцыянерам “Дайновы-інвест”

**Ігар КУПЦЭВІЧ**

***Нядаўна папулярны ў Расіі выраз “Куда вложить свой ваучер?” стаў сёння актуальным і на Беларусі. Сапраўды, куды кінуцца простаму чалавеку з прыватызацыйнымі чэкамі “Маёмасць”, калі дзесяткі фондаў зазываюць да сябе? Каму даверыцца, каб не трапіць у няёмкае становішча?***

І я адправіўся ў дарогу, а калі дакладней — у найбліжэйшае ад Дома друку 13-е аддзяленне сувязі.

— Добры вечар, — вітаюся з начальнікам аддзялення Людмілай Аляксееўнай Частновай. — Хацеў бы з вамі параіцца наконт абмену сваіх прыватызацыйных чэкаў.

— Калі ласка, выбірайце фонд, а астатняе, як кажуць, справа тэхнікі.

Праглядаю спіс і... “А што, калі абмяняць чэкі на акцыі "Дайновы-інвест"?

Людміла Аляксееўна спачатку нейтральна паціскае плячыма (маўляў, ваша справа), а затым адабрае мой выбар. Каб на месцы атрымаць кансультацыю і канчаткова вызначыцца, я ўсё ж такі вырашаю звярнуцца непасрэдна ў фонд.

Ну, вось я і ў “Дайнове-інвест”! Не выдаючы сваёй журналісцкай місіі, абмяжоўваюся асабістай цікаўнасцю і задаю традыцыйнае пытанне дылетанта: “Што я буду мець з таго, калі абмяняю свае прыватызацыйныя чэкі на акцыі вашага фонду?”

— Па-першае, — тлумачыць мне адзін з супрацоўнікаў “Дайновы-інвест” Наталля Грыневіч, — нашым заснавальнікам з'яўляецца фірма “Дайнова”. Мы спадзяёмся, што гэта імя сёння шмат у каго асацыіруецца са стабільнасцю і надзейнасцю, з адраджэннем Беларусі, падтрымкай культуры. Таму лічым, што створаны пры “Дайнове” фонд мае добрую аснову. Да таго ж, у “Дайнове-інвест” працуюць кампетэнтныя эксперты па прыватызацыі, якія аналізуюць прыватызуемыя прадпрыемствы на прадмет куплі іх акцый на чэкі “Маёмасць”.

**— Але ж мяне найперш хвалююць уласныя дывідэнды.**

— Бадай што, кожны чалавек задае нам гэтае пытанне ў першую чаргу. Напрыклад, вы вырашылі супрацоўнічаць з намі і даверылі фонду свае чэкі. На гэтыя самыя чэкі мы выкупляем частку прыватызуемых прадпрыемстваў у такіх галінах як вытворчасць металапрадукцыі, энергетыка, гандаль, лёгкая прамысловасць, будаўніцтва, вытворчасць сучаснай складанай тэхнікі. Увогуле кажучы, у тых накірунках, дзе “Дайнова” напрацавала багаты вопыт. І вось дывідэнды з працы гэтых прадпрыемстваў якраз і будуць складаць даход фонду і дывідэнды нашых акцыянераў.

**— А льготы? Ёсць яны ў вас?**

— Вядома! Усе жанчыны, якія дасягнулі ўзросту 55 гадоў, і мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў, пры набыцці 100 акцый фонду атрымліваюць адну акцыю дадаткова. Астатнія грамадзяне атрымаюць дадатковую бясплатную акцыю за ўкладзеныя 200 чэкаў.

**— Колькі каштуе ваша акцыя?**

— Акцыі нашага фонду маюць намінальную вартасць прыватызацыйнага чэка — 2,5 тысячы рублёў. Такім чынам, можна сказаць, што мы кампенсуем шмат каму з пенсіянераў суму нават крыху большую, чым тая, якую яны затрацілі на атрыманне сваіх прыватызацыйных чэкаў. Ці значную яе частку.

**— Пра вас я пачуў нядаўна. Другія фонды пачалі сваю дзейнасць крыху раней.**

— Так, некаторыя фонды пачалі працаваць раней за нас. Для “Дайновы-інвест” галоўным з'яўляецца тое, каб нашым акцыянерам было лягчэй з намі працаваць. Таму мы не спяшаліся, а рыхтаваліся як след. Напрыклад, сёння можна набыць акцыі “Дайновы-інвест” у аддзяленні Ашчадбанка па месцы атрымання чэкаў “Маёмасць” альбо ў любым аддзяленні сувязі. Для нас гэта стварае пэўныя складанасці, аднак так зручней нашым акцыянерам. І яшчэ. Кожны чалавек можа патэлефанаваць нам па нумарах 30-89-26 альбо 30-89-27 і атрымаць неабходную кансультацыю па ўкладах прыватызацыйных чэкаў. Заўсёды параім і дапаможам!

...Выходзячы з “Дайновы-інвест”, падумалася: як мала чалавеку патрэбна для шчасця. У бытавым сэнсе. Калі хоць на нейкае пытанне ў нашым сённяшнім моры “пытальнікаў” ты знаходзіш для сябе адказ.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:***

# “Наш нейтралітэт можа стаць не дэкларацыяй, а рэальнасцю”

***У публікуемым інтэрв'ю з дэпутатам Рэспублікі Беларусь Анатолем Лябедзькам узнімаецца шэраг пытанняў, якія закранаюць некаторыя аспекты знешнепалітычнай дзейнасці. З улікам мяркуемага разгляду асноўных напрамкаў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь на сесіі Вярхоўнага Савета думаем, што гэтая тэма дастаткова актуальная.***

**— Анатоль Уладзіміравіч, на сесіі Вярхоўнага Савета мяркуецца разгледзець асноўныя напрамкі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. На чым, на вашу думку, павінен грунтавацца гэты дакумент, што павінна складаць яго стрыжань?**

— У Рэспубліцы Беларусь няма векавых ворагаў і векавых сяброў, у яе ёсць векавыя інтарэсы. Гэта класічная, перафразіраваная формула, якая, на мой погляд, найлепш падыходзіць для рэалій сённяшняга дня. Мы адносна невялікая дзяржава, але нашыя інтарэсы пасеяны ў свеце дастаткова шырока. Менавіта нацыянальны інтарэс павінен быць асноўным, зыходным крытэрыем знешняй палітыкі.

**— Калі ўзаемаадносіны з Расіяй традыцыйна прызнаюцца як прыярытэтныя, як бы вы ахарактарызавалі ўзровень двухбаковых адносін Беларусі з іншымі яе суседзямі?**

— Гэтак жа, як і іншыя народы, мы даўно атрымалі ордэр на прапіску ў доме пад назвай Зямля. А суседзяў па лесвічнай пляцоўцы выбіраць не прыходзіцца. Палітычная мудрасць у тым і заключаецца, каб зрабіць гэтае суседства не толькі прыемным, але і карысным. На жаль, да апошняга часу і Украіна, і Літва, і Латвія, і Польшча фактычна не лічыліся ў рэестры нашых “прыярытэтных” краін. Аб гэтым сведчыць рэзкая неадпаведнасць узроўню двухбаковых узаемаадносін з рэальна існуючымі магчымасцямі.

**— На прэс-канферэнцыі па выніках удзелу беларускай дэлегацыі ў Будапешцкай сустрэчы ў вярхах вы назвалі Беларусь героем дня. Ці не завышана ацэнка?**

— Я проста агучыў ацэнку, дадзеную нашай краіне прэзідэнтам Венгрыі. Сапраўды, Беларусь зрабіла беспрэцэдэнтны крок у гісторыі чалавецтва — добраахвотна адмовілася ад валодання ядзернай зброяй. Вось толькі крыўдна, што да апошняга часу гэты факт не атрымаў адэкватнай ацэнкі з боку сусветнага супольніцтва. І толькі цяпер, з вялікім спазненнем, пачалася “эксплуатацыя” гэтага гістарычнага факта ў інтарэсах нашай дзяржавы.

**— Але наколькі гэтая пазіцыя стасуецца з тым, што вы, помніцца, былі адным з нямногіх дэпутатаў, хто не падтрымаў ратыфікацыю дагавора СНВ-1 і Лісабонскага пратакола да яго.**

— Ні я, ні мае калегі па дэпутацкай групе “Новыя імёны — новая палітыка” ніколі не ставілі пад сумненне неабходнасць практычнай рэалізацыі прынцыпу бяз'ядзернасці для нашай краіны. Але мы не маглі прыняць прапанаваны механізм разгляду і прыняцця рашэння па гэтаму пытанню. Нельга сабе нават уявіць, каб англійскі парламент або ізраільскі кнесет разглядаў пытанне, якое закранала б праблемы нацыянальнай бяспекі і матэрыяльнага дабрабыту народа, без дэталёвага аналізу сітуацыі, прагназіравання магчымых вынікаў і, нарэшце, без абмеркавання (?!). У нас гэта было. І гэта варта хіба што Кнігі рэкордаў Гінеса, дакладней, яе раздзела пра глупствы. Чаго толькі варты прыклад, які датычыцца прадастаўлення Беларусі гарантый бяспекі з боку ядзерных дзяржаў. І дэпутацкая большасць, і іншыя парламенцкія фракцыі задаволіла абяцанне аднаго з кіраўнікоў ядзернай дзяржавы, зробленае... па тэлефоне.

Асаблівасць нашага падыходу заключаецца ў тым, што мы прапаноўвалі не скідваць з рахунку і матэрыяльную каштоўнасць ядзернай зброі. Тэхніка, каштоўныя металы, нарэшце, сам уран на сусветным рынку з'яўляюцца таварам, які мае пэўны кошт. Калі зыходзіць з кошту аднаго грама ўзбагачанага ўрану 100 долараў ЗША, дык, паводле самых сціплых падлікаў, рэспубліка страціла 3,5 мільярда долараў толькі на адным гэтым кампаненце. Нават паловы гэтай сумы хапіла б для стабілізацыі фінансавай сістэмы і аздараўлення нашай эканомікі.

Мы мелі поўнае як юрыдычнае, так і маральнае права патрабаваць кампенсацыю за ядзерную зброю, якая знаходзілася на нашай тэрыторыі. Гэтак жа, як і за нанесены краіне матэрыяльны і маральны ўрон у сувязі з чарнобыльскай катастрофай (толькі кампенсацыя страт здароўя насельніцтвам Беларусі складае, паводле разлікаў экспертаў, каля 2,4 мільярда долараў ЗША).

Вядома, пастаноўка гэтага пытання не азначае яго аўтаматычнага вырашэння. Але 2—3 гады назад гэта было дастаткова рэалістычным і магчымым. На жаль, прасвятлілася памяць і прарэзалася мова ў сяго-таго толькі напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў.

Як вынік на такіх гістарычных рашэннях, як ратыфікацыя дагавора СНВ-1, атрымалі выгаду і нагулялі палітычны тлушч, які дазваляе не тануць у хвалях далёкага замежжа, толькі асобныя дзеячы. Для дзяржавы ж і народа пакуль што больш упушчанай выгады, чым набыткаў. Вывад напрошваецца адзін — калі б на кожнае пытанне, на кожную праблему глядзелі з пазіцыі нацыянальных, дзяржаўных інтарэсаў, мы б ужо мелі і дэмакратыю, і цывілізаваны рынак, і стабільнасць.

**— У апошні час за вамі стаў замацоўвацца імідж палітыка празаходняй арыентацыі. Але, можа, яшчэ не позна задаць вам такое пытанне: куды ўсё ж павінна рухацца Беларусь — на Усход ці на Захад?**

— Па-першае, я не “празаходні”, не “праўсходні”. Я б аднёс сябе да прагматыка з дастаткова выражанай прабеларускай арыентацыяй.

Па-другое, Беларусі не трэба нікуды рухацца: ні на захад, ні на поўнач, ні на ўсход. Мы — еўрапейская дзяржава, якая знаходзіцца ў цэнтры кантынента і мае выгаднае геапалітычнае размяшчэнне, якое прадвызначае абавязковы рух да нас і Захаду, і Усходу. Беларусь — масток, які злучае Расію і Заходнюю Еўропу, два магутныя эканамічныя цэнтры, якія ў многім вызначаюць сусветную палітыку. І гэта няпраўда, што мы не ўяўляем цікавасці для еўрапейскага і сусветнага супольніцтва. Такія сцвярджэнні альбо прыкмета глупства, альбо прыклад вялікай палітычнай гульні.

Еўропа (я маю на ўвазе геаграфічную прастору ад Пірынеяў да Урала) і раней не пакутавала на адсутнасць “увагі” да беларускіх зямель. Праўда, еўрапейска-азіяцкія дзяржавы ішлі не да нас, а хутчэй па нас. Цана гэтаму — тыя 26 мільёнаў забітых і ненароджаных сыноў і дачок гэтай шматпакутнай зямлі. Хочацца спадзявацца, што прыход Усходу і Захаду на Беларусь у канцы другога тысячагоддзя будзе цывілізаваным і ўзаемавыгадным.

Так што, перш чым выбіраць правільныя дарогі, мы павінны ведаць сваю рэальную цану. Гэтак жа, як і Еўропа павінна адчуваць сваю маральную адказнасць перад нашым народам.

**— І як вам здаецца, доўга нам яшчэ чакаць прыходу Еўропы?**

— Трэба не чакаць, а арганізоўваць рух Еўропы да нас. Для гэтага трэба стварыць эканамічныя, палітычныя, юрыдычныя, псіхалагічныя прадпасылкі і ўмовы. Неабходна вуліца з двухбаковым рухам. І наш шлях на Усход і Захад якраз і павінен забяспечыць рух Еўропы ў Беларусь. Іншымі словамі, забяспечыць рух міжнароднага капіталу, расійскай сыравіны і камплектуючых, заходнееўрапейскіх тэхналогій, ноу-хау. У злучэнні з кваліфікаванай і дастаткова таннай рабочай сілай, інтэлектуальным патэнцыялам беларускага народа і перавагамі Беларусі як еўрапейскага скрыжавання гэта дасць стабільныя рынкі збыту, нацыянальную бяспеку і высокі ўзровень жыцця.

**— Вы мяркуеце, што эканоміка здольная станоўча вырашаць пытанні нацыянальнай бяспекі?**

— Так, я перакананы, што для Беларусі канстытуцыйнае палажэнне аб нейтралітэце можа стаць не дэкларацыяй, а рэальнасцю. І бяспеку краіны больш эфектыўна могуць забяспечыць не міжнародныя ваенныя блокі або двухбаковыя пагадненні аб ваенным супрацоўніцтве, а дальнабачная палітыка, накіраваная на прыцягненне замежных інвестыцый, і матэрыялізацыя на тэрыторыі нашай рэспублікі міжнароднага капіталу. Уласнасць у выглядзе будынкаў, збудаванняў, станкоў і іншых матэрыяльных каштоўнасцей мацнейшая за гарматы і ракеты. Аб гэтым сведчыць і гісторыя. Чым шырэй будзе прысутнічаць у нашай эканоміцы нямецкі, расійскі, французскі, японскі капітал, тым вышэйшым будзе ўзровень нашай бяспекі.

Ураду, парламенту, якія зыходзяць з нацыянальных, дзяржаўных інтарэсаў, не будзе складана зрабіць гэты працэс кантралюемым і кіруемым, выкарыстоўваючы прававыя рычагі і механізмы.

**— У такім выпадку стварэнне фінансава-прамысловых груп адпавядае вашай канцэпцыі нацыянальнай бяспекі краіны?**

— Так, але толькі пры ўмове роўных магчымасцей для ўсіх патэнцыяльных удзельнікаў такіх груп і адсутнасці манаполіі з боку якой-небудзь краіны. Павінна быць рыса разумнай дастатковасці. Яе незахаванне можа прывесці да паражэння імуннай сістэмы здаровага эканамічнага арганізма вірусам палітычнага СНІДу.

А ў цэлым мы спазніліся са стварэннем умоў для з'яўлення транснацыянальных карпарацый на Беларусі гады на 3—4. Пакуль мы захапляліся ўсведамленнем таго, што гэта наша, і толькі наша, у суседніх краінах СНД ствараліся такія ж прадпрыемствы, а некаторыя “нашы” за гэты час значна страцілі рэйтынг прывабнасці для патэнцыяльных інвестараў.

**Гутарыў Алесь НАЛЬШАНСКІ.**

Тэатры

**24—25 студзеня**

**Пачатак у 19.00**

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ Я.КУПАЛЫ**

25 студзеня — **“Тутэйшыя”** (пераносіцца на 30.01.95 г.).

Заказ білетаў і даведкі па тэл.: 27-17-17, 27-42-02.

**ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА**

24 студзеня — **“Яўген Анегін”** (опера),

25 студзеня — **“Серэнада”** (балет), **“Балеро”** (балет), **“Прывал кавалерыі”** (балет).

**БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ**

(канцэртная зала)

24 студзеня — Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь. Мастацкі кіраўнік і дырыжор — **І.Э.Райль** (Германія). Саліст — **У.Врохем** (альт, Германія). У праграме: Карэлі, Гендэль, Хіндэміт, Хаўстэтэр;

(зала камернай музыкі)

24 студзеня — **“Сябруе домра з мандалінай”**. Выканаўца — **М.Марэцкі** (домра, мандаліна). У канцэрце прымаюць удзел: **І.Алоўнікаў** (фартэпіяна), **А.Шчарбакоў** (барытон), **Н.Ручымская** (мандаліна), ансамбль **“Музычны момант”**. Мастацкі кіраўнік — **Л.Маеўскі**. Музыказнаўца — **І.Зубрыч**. Бетховен — П'есы для мандаліны (першае выкананне), Будашкін, Цыганкоў, старадаўнія рамансы.

